Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




# ГАСЦІНЕЦ

№ 8 (179) ТРАВЕНЬ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

*Галоўная справа грамадзяніна – трымаць рот адкрытым*

*Гюнтэр Грасс*

НАША ЎЛАДА

# ЯКАБСОНУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ ПЛАНЫ, ЯКІЯ НЕ ВЯДОМЫ ЖЫХАРАМ

**16 траўня у Гарадок прыбыў старшыня Дзяржкантроля Аляксандр Якабсон, які наведаў ААТ "Гарадоцкая птушкафабрыка", а таксама два аб'екты, што рыхтуюць да "Дажынак".**

Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантроля Аляксандр Якабсон 16 траўня знаходзіўся ў Віцебскай вобласці, дзе правёў прамую лінію з грамадзянамі, а таксама наведаў Гарадок, дзе ідзе падрыхтоўка да "Дажынак".

Дзяржкамітэт кожны год ажыццяўляе кантроль за выкарыстаннем бюджэтных сродкаў, якія выдаткоўваюцца на падрыхтоўку пэўнага горада да "Дажынак". Звычайна вынікамі такіх праверак з'яўляюццаа крымінальныя справы, якія ўзбуджаюцца супраць адказных асоб, якія паблыталі дзяржаўную кішэнь з уласнай.

Аляксандр Якабсон наведаў цэнтральную плошчу і будаўнічую пляцоўку Віцебскага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерва па зімніх відах спорту на вул. Гагарына. На цэнтральнай плошчы, дзе ідуць фінішныя працы па яе рэканструкцыі, былі размешчаны дэманстрацыйныя стэнды, на якіх прадстаўлены апісанні аб'ектаў Гарадка, што рыхтуюцца да Дажынак.

Для жыхароў Гарадка ды і грамадзян Беларусі было бы цікава ведаць, колькі плануецца выдаткаваць сродкаў на падрыхтоўку розных аб'ектаў Гарадка да Дажынак. Але гэтай афіцыйнай інфармацыі няма ні ў мясцовым друку, ні на сайце Гарадоцкага райвыканкама. Дарэчы на сайце райвыканкама знікла рубрыка "Дажынкі – 2014", якая была створана пасля абвяшчэння Гарадка сталіцай рэспубліканскіх Дажынак – 2014.

Алегэтыястэндыбылістворанысперш за ўсё для старшыні Дзяржкантроля, а не жыхароў Гарадка. І большасць іх была прыбрана з плошчы пасля заканчэння візіта сталічнага госця. Толькі каля крамы "Прычал" засталіся і на наступны дзень два стэнды, пераважна з аб'ектамі, якія курыруе Белспажыўсаюз. Жыхары мелі магчымасць азнаёміцца з аб'ектамі Гарадоцкага райспажыўсаюза, якія будуць пабудаваны або рэканструіраваны ў Гарадку.

Прыцягнуў ўвагу план мадэрнізацыі рэстарана "Вясёлка", які павінен змяніць свой выгляд з боку плошчы. Белспажыўсаюз плануе выдаткаваць на мадэрнізацыю рэстарана 2 мільярды рублёў, а работы павінна правесці Глыбоцкая ПМК з сакавіка месяца. Праўда, яшчэ праект мадэрнізацыі распрацоўваецца УП "Віцебскгражданпраект", нягледзячы на тое, што тэрмін завяршыўся яшчэ ў лютым.

Наогул, было бы добра, каб гэтыя планы падрыхтоўкі розных аб'енктаў меў магчымасць пабачыць не толькі Аляксандр Якабсон, але і любы жадаючы жыхар Гарадка.

**Л. Антонаў**

**САЙТ ТВАЙГО ГОРАДА HTTP://HARADOK.INFO**

ІНІЦЫЯТЫВА

# СТАТУС ГАРАДСКОГА ПАСЁЛКА БУДЗЕ ЛІКВІДАВАНЫ

**Гарадоцкі райвыканкам ініцыяваў працэдуру змянення статуса гарадского пасёлка Езярышча ў Езярышчанскі сельсавет з далучэннем да яго часткі Бычыхінскага сельсавета. Прапановы па змене статуса Езярышча і межаў новага сельсавета прымаюцца ў Гарадоцкі райвыканкам да 3 чэрвеня.**

На сайце Гарадоцкага райвыканкама з'явілася абвестка аб правядзенні грамадскага абмеркавання змянення статуса г.п. Езярышча. Гэта будзе трэцяе змяненне тэрытарыяльна адмі-ністрацыйнага дзялення Гарадоцкага раёна з аапошнія дзесяць гадоў.

Нагадаем, што самае буйное змяненне адбылося ў 2004 годзе, калі было ліквідавана аж сем сельсаветаў: Вярэцкі, Газьбінскі, Зайкаўскі, Марчанскі, Халамерскі, Хмяльніцкі сельскія саветы. Прычына ліквідацыі сельсаветаў – катастрафічнае змяншэнне колькасці сельскага насельніцтва Гарадоцкага за апошнія дваццаць гадоў. З 1994 года сельскае насельніцтва раёна зменшылася з 24 тысяч да 10 тысяч.

У мінулым годзе ў кастрычніку быў ліквідаваны Гуркінскі сельсавет шляхам далучэння да Бычыхінскага. Гэта стварылі нязручнасці для жыхароў вёсак, якія месцяцца каля г.п. Езярышча. Пры гэтым само старажытнае Езярышча, якое вядзе сваю гісторыю з 1377 года, імкліва скарачала сваё насельніцтва. На стану на канец 2013 года ў г.п. Езярышча статыстыка зафіксавала пражыванне толькі 1 364 чалавек.

І пасля чарговай кампаніі па выбарах мясцовых Саветаў улады прынялі рашэнне аб змяненні статуса гарадского пасёлка Езярышча праз наданне яму статуса звычайнай вёскі і ўтварэнне аднайменнага сельсавета з далучэннем тэрыторыі Бычыхінскага сельсавета. Зараз грамадзяне могуць пісьмова звяртацца з прапановамі ў райвыканкам 211573, г. Гарадок, вул. Пралетарская 2, каб. 209 або пісаць прапановы ў электронным выглядзе на e-mail: gorrik@vitebsk.by .

Жыхары Езярышча, асабліва працуючыя ў сістэме адукацыі, пазітыўна ўспрымуць гэты статус, бо ён даедадатковаефінансаванне.Жыхарам жа былога Гуркінскага сельсавета трэба вызначыцца аб сваёй прыналежнасці да Бычыхінскага або Езярышчанскага сельсавета. Гэта датычыцца грамадзян з 22 пераважна маланаселеных вёсак былога Гуркінскага сельсавета, якія ў мінулым годзе былі далучаны да Бычыхінскага сельсавета.

Прапановы ад грамадзян прымаюцца да 3 чэрвеня.

**Л. Антонаў**

БЮДЖЭТ РАЁНА

# ШТРАФЫ ДЗЕЛЯ ДАЖЫНАК

**Бюджэт Гарадоцкага раёна на 2014 год прыдуглежвае, што штрафаў у раёне неабходна сабраць у два разы болей, чым у 2013 годзе.**

Бюджэт Гарадоцкага раёна на 2014 год быў прыняты Гарадоцкім Саветам дэпутатаў 27 снежня 2013 г.. Гэты "дажыначны" бюджэт амаль у 2,5 разы большы па прыбытках, чым бюджэт 2013 года. У 2013 годзе за кошт усіх відаў паступленняў планавалася атрымаць прыбыткаў на 214,4 млрд. рублёў.

У сувязі з правядзеннем "Дажынак" структура бюджэта раёна на 2014 год стала іншай. Усіх прыбыткаў у Гарадоцкім раёне запланавана ў снежні на 526,8 млрд. рублёў, а бязвыплатныя паступленні складуць ужо 444,8 млрд. рублёў.

Гэтыя і іншыя паказчыкі бюджэта яшчэ па 5-7 разоў на працягу года звычайна карэктуюцца, але незначна. Пры фармаванні прыбыткоўвай часткі бюджэта звычайным грамадзянам раёна цікава будзе ведаць, што слугі народа заклалі ў прыбыткі рост штрафаў з грамадзян і арганізацый раёна ў два разы большы, чым было ў 2013 годзе.

У мінулым годзе, калі ніякіх Дажынак не планавалася ў бюджэце раёна было запланавана сабраць штрафаў на 798,8 млн. рублёў з грамадзян і арганізацый. А вось у год свята працаўнікоў сяла гэтых штрафаў трэба сабраць міліцыі, пажарнікам, санстанцыі, падатковай і г.д. ужо на 1млрд. 638 млн. рублёў! Дарэчы планы па штрафах у 2013 годзе былі на 175 млн. руб. меншыя, чым у 2012 годзе.

Відавочна, што рост штрафаў амаль на 840 млн. рублёў не выраша пытанне з фінансаваннем мерапрыемстваў на Дыжынкі. Але адыме шмат нерваў, як у грамадзян, якія трапяць пад штрафныя санкцыі, так і супрацоўнікаў органаў, якія павінны забяспечыць рост штрафаў больш, чым у два разы.

**Леанід Гаравы**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

# ПЕРАМОГА Ў ГАСЦЯХ

**Гарадоцкі "Прамень" атрымаў перамогу у гасцях у стартавым матчы першай лігі першанства Віцебскай вобласці па футболу.**

24 траўня футбалісты Гарадоцкага клуба святкавалі перамогу з лікам 3:2 над ФК "Азярцы". Першы тайм завяршыўся з лікам 2:2. Першыя галы забілі Вячэслаў Мочкін і Вадзім Васільеў, у другім тайме пераможны гол правёў Ілля Жарнасек з галявой перадачы Іллі Калтунова.

Нагадаем, што ў першанстве Віцебскай вобласці у першай лізе ў 2012 годзе гарадоцкая каманда, якая выступала пад назвай "Меліяратар", за весь сезон атрымала толькі адну перамогу і двойчы сыграла пароўну, а ФК "Азярцы" меў 8 перамог і завяршыў на 4 месцы пры 30 ачках.

У наступным туры 31 траўня на сваім поле "Прамень" будзе прымаць аршанскі "Экамол", які ў гасцях атрымаў валявую перамогу над "Газавіком" (Віцебск) з лікам 5:2 (1:2). Пачатак гульні ў 16.00

***ФК"Азярцы"(Глыбокае)-ФК"Прамень" (Гарадок) 2:3 (2:2)***

*Склад: Хацько; Бакевіч, Крываносаў, Лясніčы, Калтуноў; Самсаненка, Шыла, Васільеў (Аўсяннікаў), Галуза (Андрэйчанка); Мочкін, Жарнасек*

*Галы: Мочкін, Васільеў, Жарнасек*

*Галявыя перадачы: Жарнасек, Самсаненка, Калтуноў*

**Л. Антонаў**

"ДАЖЫНКІ—2014"

# АЎТАСТАНЦЫЯ ГАРАДКА ПРЫМАЕ НОВАЕ АБЛІЧЧА

**Рэканструкцыя аўтастанцыі г. Гарадка перайшла свой экватар. Ужо стала бачна, што сабой будзе ўяўляць новы будынак аўтастанцыі .**

Аўтастанцыя горада Гарадка спыніла сваю працу напрыканцы лістапада. Менавіта з 26 лістапада аўтобусныя маршруты, як прыгарадныя, так і міжгароднія, пачалі адпраўляцца з прыпынку ад крамы Юбілейная па вул. Талкачова.

Тады і распачалася праца па дэмантажу былога будынка аўтастанцыі. Непасрэдна ж праект рэканструкцыі аўтастанцыі пачаў ажыццяўляцца з лютага, калі на аб'екце пачалі працаваць будаўнікі філіяла БМП № 715 ААТ "Трэст Белтрансбуд". Праект створаны ААТ "Праектны інстытут "Бел ДПІ"" і яго плануецца завяршыць у жніўні месяцы.

Замест ранейшай аднапавярховай аўстанцыі пасажыраў будуць адпраўляцца ў падарожжа з двухпавярховага будынка. У адрозненні ад большасці новых аўтастанцыі райцэнтраў Віцебшчыны гэта будзе не будынак з метала і шкла, а цагляны двухпавярховік. Гэта лепш адпавядае кліматычным умовам нашага рэгіёна.

Нагадаем, што побач з аўстанцыяй, на пляцоўцы Белтэлекама", па адной з версій уладаў павінен размясціцца і крыты рынак.

**Л. Антонаў**



*На сярэдзіну траўня бачны новы выгляд будынка.*

ПАДСОБНАЯ ГАСПАДАРКА

# ЖОРСТКАГА АБЫХОДЖАННЯ З ОРЛІКАМ НЕ БЫЛО

**Суд Гарадоцкага раёна разгледзіў адміністрацыйную справу ў адносінах да Віктара Дзямьяненкі, які на пачатку лютага быў "героем" журналісткіх рэпартажаў аб жорсткім абыходжанні з дамашнімі жывёламі.**

Нагадаем, што 1 лютага ў Віктара Дзямьяненкі паў жарабец, які ўтрымліваўся на адкрытым паветры. Незадаволеныя суседзі паведамілі аб гэтым праваахоўным органам, журналістам. Вынікам візіта тэлевізіёншчыкаў стаў рэпартаж аб жорсткім абыходжанні з дамашнімі жывёламі. Адказныя ж прадстаўнікі ветэрынарнай службы склалі на гаспадара два пратаколы: як за парушэнне ветэрынарных правіл ( арт. 15.38 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях), так і за жорсткае абыходжанне з жывёламі ( арт. 15.45 КаАП).

Камісія Гарадоцкага райвыканкама ў сярэдзіне лютага аштрафавала гаспадара на 10 базавых велічынь за парушэнне ветэрынарных правіл па арт. 15.38. Праўда, на пасяджэнне камісіі Віктар Дзямьяненка не быў запрошаны і адпаведна своечасова не атрымаў яе рашэнне. З дапамогай адваката ў сакавіку гаспадар абскардзіў гэтае рашэнне Гарадоцкага райвыканкама, але суд Гарадоцкага раёна рашэннем ад 15 траўня пакінуў яго ў сіле, палічыўшы, што Дзямьяненка парушыў ветэрынарныя правілы самастойна лекаваўшы рану на шыі жарабца, які потым паў.

Адначасова з гэтым Гарадоцкі райвыканкам у красавіку па арт. 15.45 КаАП склаў пратакол аб жорсткім абыходжанні з жарабцом. Па гэтаму артыкулу прыдугледжваецца штраф ад 10 да 30 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

20 траўня старшыня Гарадоцкага суда Аляксандр Ляшковіч у адкрытым працэсе разгледзіў дадзены пратакол. Пад час судовага пасяджэння Віктар Дзямьяненка патлумачыў, што рана на шыі жарабца ўзнікла пасля таго, як да жарабца 19 студзеня былі кінуты пітарды і ён ланцугом пашкодзіў шыю. Гаспадар лячыў рану расворам марганцоўкі, апрацоўваў ёдам, стрэптацыдам, але 1 лютага жарабец памёр. Па заключэнню спецыялістаў ветэрынарнай службы смерць здарылася ў выніку сэпсісу – заражэння крыві – у сувязі з самастойным лячэннем раны, якая не магла нармальна зажыць пры ўтрыманні жарабца на ланцугу. Дарэчы, самастойнае лячэнне жарабца пасля якога той паў, стала падставай для Дзяржстраху адмовіць у выплаце страхавой кампенсацыі.

Пры апытанні сведкаў стала зразумела, што Дзямьяненка больш 12 гадоў утрымлівае коней і імкнецца ўтрымліваць іх у добрым стане. Калі мінулым летам той жа жарабец Орлік пашкодзіў сабе шыю ланцугом, то Віктар Васільевіч самастойна ў спякотных умовах здолеў вылечыць рану на шыі любімца. Сведкі распавялі, што год назад гаспадар ратаваў карову ад роя суседскіх пчол, якія на яе напалі. Пры гэтым Дзямьяненка сам моцна пацярпеў – апынуўся ў Гарадоцкай бальніцы, дзе з яго цела дасталі каля 200 пчаліных джал.

Знаходжанне коней зімой на адкрытым паветры гаспадар тлумачыў тым, што гэта натуральны стан для жывёлы. Напрыклад, у вайну зімой 1941 года коні знаходзіліся ў палявых умовах і ніхто не лічыў гэта жорсткім абыходжаннем з жывёламі. Аналагічна гаспадары зімой хавалі ад акупантаў кароў у лясах, балотах і ад гэтага жывёлы не пагібалі.

Па выніках разгляду справы суддзя Аляксандр Ляшковіч прыняў рашэнне аб спыненні адміністрацыйнай справы ў сувязі з адсутнасцю складу правапарушэння. Прычынай смерці жарабца стала не жорсткае абыходжанне, а сэпсіс, які ўзнік пры самастойным лячэнні без звяртання па кансультацыю да ветэрынарных спецыялістаў. Між тым, за парушэнне ветэрынарных правілаў Дзямьяненка ўжо пакараны.

Для ўсіх гаспадароў, якія ўтрымліваюць дамашніх жывёл, з гэтай гісторыі маецца добры ўрок: пры з'яўленні прыкметаў хваробы жывёлы неабходна адразу звяртацца па дапамогу да ветэрынарнай службы. Самастойнае лячэнне, якое прывядзе да смерці жывёлы, будзе падставай для страхаўшчыкоў, каб адмовіць у выплаце кампенсацыі. Таксама гэта гісторыі навука і для журналістаў – перш чым заяўляць аб жорсткім абыходжанні з жывёламі са слоў неаб'ектыўных суседзяў трэба кансультавацца ў спецыялістаў, якія маюць неабходныя веды: як спецыяльныя, так і прававыя.

**Леанід Гаравы**

МЯСТЭЧКА

# ЗНІКАЮЧАЕ ЕЗЯРЫШЧА

**Даныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта па насельніцтву за 2013 год зафіксавалі, што ў г.п. Езярышча колькасць пенсіянераў амаль дасягнула колькасці працаздольнага насельніцтва.**

Статыстычныя даныя зафіксавалі, што на канец 2013 года ў г.п. Езярышча пражывала 1 364 чалавека. Гэта значна менш, чым дзесяцігоддзе назад, але больш, чым у такіх гарадскіх пасёлках, як Янавічы ці Сураж Віцебскага раёна, дзе пражывае менш чым па 900 чалавек.

Але тэндэнцыя павелячэння насельніцтва па ўзросту сведчыць, што ў Езярышчы становіцца менш моладзі, а ўсё больш людзей сталага ўзросту. Пры гэтым моладзі значна менш, чым у іншых гарадскіх пасёлках Віцебшчыны. Статыстыка зафіксавала ў Езярышчы толькі 150 маладых людзей да працаздольнага ўзросту.

Саміх жа працаздольных езярышчанцаў толькі 630 чалавек. І гэту колькасць даганяюць людзе ва ўзросце старэйшым за працаздольны. Такіх грамадзян у Езярышчы 584 чалавека. Пры гэтым у дадзенай узраставай групе пераважваюць жанчыны: жанчын сталага ўзросту ў Езярышчы 424, а мужчын толькі 160.

Дадзеная тэндэнцыя перавагі жанчын над мужчынамі ў пенсійным узросце характэрна для ўсёй краіны. Але перавага жанчын больш чым у два з паловай разы характэрна менавіта для Езярышча. Пры захаванні тэмпаў памяншэння насельніцтва і адсутнасці месцаў для працы насельніцтва паўночнай кропкі Беларусі будзе і далей імкліва змяншацца.

Гэта непазбежна перавядзе Езярышча ў статус звычайнай вёскі. Між тым пісьмовыя крыніцы сведчаць, што гісторыя Езярышча пачалася раней 1377 года.

**Т. Гаражанка**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЯ ГАЛІНА МІНУСУЕ ПА КРАІНЕ

**Падведзены вынікі працы жывёлагадоўчай галіны Беларусі за першы квартал. Гарадоцкі раён апынуўся на 94 месцы сярод 118 раёнаў краіны па надоях малака, атрымаўшы значнае змяншэнне асноўных паказчыкаў жывёлагадоўчай дзейнасці.**

"Сельская газета" ў нумары за 20 траўня ў чарговы раз заклікала меняць мінусы на плюсы і пераходзіць ад валавай вытворчасці да паспяховага фінансавага выніка. Падставай для такога звароту асталі несуцяшальныя вынікі па жывёлагадоўлі, як у разрэзе раёнаў, так і краіны у цэлым. Шматтрыльённыя ўкладанні ў аграгарадкі, малочнатаварныя фермы, чысціню палей ніякім чынам не прывялі да росту валавай вытворчасці, не кажучы пра паспяховыя фінансавыя вынікі.

Па выніках першага квартала ў цэлым па Беларусі назіраліся памяншэнні, як надояў ад каровы на -38 кг, так і падзенне штодзённага прыбаўлення ў вазе буйной жывёлы на – 29 г, а ў свінняў на – 10 г. Адпаведна меней было здадзена малака і мяса за першы квартал, чым у мінулым годзе.

Гэта негатыўная тэндэнцыя ў яшчэ большай ступені характэрна для Віцебшчыны, якая апынулася на апошнім месцы сярод абласцей па эфектыўнасці жывёлагадоўлі. На Віцебшчыне за першы квартал адбыліся самыя вялікія падзенні надояў на карову -97 кг, а таксама самае вялікае падзенне прыбаўлення ў вазе свінняў – 74 г.

У нашым раёне гэтыя негатыўныя тэндэнцыі маюць яшчэ большы памер. Надоі на адну карову склалі 805 кг і скараціліся на 50 кг, адпаведна малака атрымалі толькі 5 390 тон – 87,7% ад мінулагодняга ўзроўня. Значнае падзенне прыбаўлення ў вазе буйной жывёлы на 156 г. сказалася на агульнай вазе прададзенага мяса, якая склала толькі 77,3% ад мінулага года.

Нездарма гэтая тэндэнцыя зафіксавала, што займацца жывёлагадоўляй пры існуючым дысбалансе цэнаў на сельскагаспадарчую прадукцыю і цэнаў на агратэхніку і паслугі перапрацоўваючых камбінатаў не выгадна. Вынікам гэтай сітуацыі стаў рэзкі рост коштаў на мяса ў беларускіх крамах. Але гэта асобная гісторыя.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАШ КІРАЎНІК

# РЫКАШЭТ. ШЧЫРАСЬЦЬ ЛУКАШЭНКІ

**Інтэрвію Лукашэнкі замежным мэдыям заўсёды цікавыя. Бо, у адрозьненьне ад прыдворных беларускіх журналістаў, замежнікі задаюць і вострыя пытаньні. І якім бы ні быў кіраўнік Беларусі выдатным маніпулятарам, ён усё роўна ў той ці іншай форме прагаворваецца. І выяўляецца сапраўдны Лукашэнка, без афіцыёзнага флёру. Ягонае інтэрвію Ксеніі Сабчак — якраз з гэтага шэрагу.**

Ужо шмат разоў Лукашэнка падчас афіцыйных сустрэч дэкляраваў палітычную падтрымку Расеі ў яе цяперашнім канфлікце з Украінай і Захадам. А вось у згаданым інтэрвію ён даволі адкрыта выказвае нязгоду з пазыцыяй РФ адносна ўкраінскага крызісу. Насуперак расейскім тэлеканалам кіраўнік Беларусі кажа, што рэфэрэндумы ў Данецкай і Луганскай абласьцях з гледзішча права нікчэмныя. Прызнае ролю «зялёных чалавечкаў» у Крыме і на паўднёвым усходзе Ўкраіны. А заявы пра тое, што Пуціну ва Ўкраіне рабіць няма чаго, «яго туды ніхто ня клікаў, там яго ніхто не чакае», парада Расеі разабрацца «з тымі землямі, якія ў вас ёсьць», увогуле маглі б належаць нейкаму ўкраінскаму патрыёту.

Лукашэнка каторы ўжо раз выказвае свае асьцярогі адносна расейскай пагрозы Беларусі. Хоць і кідае мімаходзь сваю дзяжурную фразу, што «ў Беларусі няма тых глыбінных працэсаў, якія адбываліся на Ўкраіне», аднак прагаворвае сваё патаемнае адчуваньне небясьпекі: «Хто б ні прыйшоў на беларускую зямлю, я буду ваяваць. Нават калі гэта будзе Пуцін».

Ну, і, вядома, улюбёная тэма Лукашэнкі падчас усіх інтэрвію расейскім мэдыям: у Беларусі лепш, чым у Расеі, а беларускі прэзыдэнт нашмат лепшы за расейскага. РФ не захацела аб'ядноўвацца зь Беларусьсю, бо спужалася, што Лукашэнка захопіць шапку Манамаха. У Расеі ўлада выкарыстоўваецца самі ведаеце дзеля чаго, а ў Беларусі — дзеля служэньня народу.

І да апазыцыі Лукашэнка ставіцца лепш, чым Пуцін. Маўляў, я не пасадзіў бы Навальнага ў турму. І калі Сабчак адразу ўзгадала беларускіх палітвязьняў, то прэзыдэнт Беларусі, як ён лічыць, лёгка адбіўся: «А ня трэба было кайлом дзьверы ўраду біць».

І нават у асабістым жыцьці беларускі лідэр мае перавагу перад расейскім. Вось Лукашэнку хапіла прыстойнасьці не разводзіцца з жонкай, а Пуціну — не. Гэта выглядае вельмі пікантна на тле адносін з Галінай Радзівонаўнай, але ён пашкадаваў «Люду» (былую жонку Пуціна). «Вы лічыце, што гэта вельмі сумленны і прыстойны ўчынак?.. Ведаеце, чаму Пуцін разьвёўся? Можа, гэтага хацеў іншы чалавек. Ня ведаю, дзяўчына ці жанчына. Націснуць на прэзыдэнта таксама можна», — з пагардай заявіў беларускі кіраўнік. І ўсім адразу стаў зразумелы сапраўды вобраз расейскага прэзыдэнта. Бо калі мужчына разводзіцца пад ціскам жанчыны, ён жа пад абцасам! Ну, вы ж самі разумееце, пра што тут казаць. Слабак, а яшчэ лідэр нацыі.

Традыцыйнае пытаньне замежных журналістаў: «Як вы ўяўляеце сабе, у прынцыпе, сваю адстаўку? Як вы гэта бачыце? Вы думалі пра гэта?» — спытала Ксенія Сабчак. І атрымала цудоўны і незраўнаны па шчырасьці адказ: «Ну, калі я не змагу працаваць і буду ў сваім розуме... Разумееце, я нямоглы чалавек, але галава „кеміць". Я пайду ў адстаўку сам. Гэта значыць, калі я па стане здароўя не змагу. І другое — калі народ прагаласуе за іншага».

Заўважце, дзяжурную фразу пра народ ён узгадаў толькі ў канцы, схамянуўшыся, што інакш няёмка. А першая рэакцыя на лёсавырашальнае пытаньне была спантанная. Толькі калі стану нямоглым! Гэтак нааўтамаце, наўзроўні падсьвядомасьці адказваюць людзі, калі іх разбудзяць ноччу падчас глыбокага сну. Уважліва слухайце Лукашэнку, усе свае намеры і патаемныя думкі ён прагаворвае.

Самым непрыемным і, магчыма, нечаканым момантам інтэрвію стала пытаньне не пра пахаваньне, а пра дзяўчат, якія акружаюць Лукашэнку на ўрачыстых цырымоніях. Ён трохі разгубіўся, зьбіўся. Тлумачэньне было няўклюднае і недарэчнае: «Я ніколі на ніводным мерапрыемстве не сяджу з намыленай пысай сярод чыноўнікаў... Заўсёды дзяўчаткі... З аднаго боку сын маленькі, з другога — дзяўчынка... У нас у службе дзелавога пратаколу ёсьць некалькі дзяўчат, яны вельмі прыгожыя. І калі я дзесьці там сяджу, кажуць — Аляксандар Рыгоравіч, я з вамі сяду».

Так жыва ўяўляеш сытуацыю, як дзяўчаты з пратакольнай службы прарываюцца да прэзыдэнта, каб сесьці побач. Тут цікавая такая акалічнасьць. Лукашэнка чамусьці думае, што прысутнасьць каля яго прыгожых дзяўчат на тэлеэкране робіць яго больш папулярным, малодзіць, дадае нешта станоўчае да ягонага чалавечага вобразу.

«Што тычыцца Дашкі (Дар'я Шманай. — Аўт.), пра якую гаворка ішла, дык я яе два гады ведаю. Вельмі прыстойная дзяўчына. Калі б у мяне такая была дзяўчына. Гэта вышэй за дах», — замілавана сказаў Лукашэнка. І тут зьнікае прэзыдэнт і зьяўляецца яшчэ не стары мужчына.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**




ТРАГІЧНАЯ ПРАЎДА

# ПРА ТАКУЮ ВАЙНУ НАМ НЕ РАСПАВЯДАЛІ...

**У 1949 годзе, перад святкаваннем 70- гадовага юбілею Сталіна, у былым СССР былі расстраляныя франтавікі інваліды ВАВ. Частку іх расстралялі, частку павезлі на далёкія астравы Поўначы і ў глухія куты Валаама - лагера інвалідаў Другой сусветнай вайны.**

Ён быў размешчаны на востраве Валаам (у паўночнай частцы Ладажскага возера), куды пасля Другой сусветнай вайны ў 1950-1984 звозілі інвалідаў вайны. Заснаваны па ўказе Вярхоўнага савета Карэла- Фінскай ССР у 1950 годзе. Знаходзіўся ў былых манастырскіх памяшканнях. І тут размясцілі Дом інвалідаў вайны і працы. Навошта такая ўвага няшчасным інвалідам Вайны? Чаму на востраве, а не на мацерыку? А ўстанова была яшчэ тая ...

А выявілася, лепш бы без такой пільнай увагі да персонаў, якія занадта намазолілі вочы савецкаму народу - пераможцу - сотні тысяч інвалідаў: бязрукіх, бязногіх, непрыкаяных, якія зарабляюць жабрацтвам па вакзалах, у цягніках, на вуліцах ... Грудзі ў ордэнах, а ён каля булачнай міласціну просіць. Пазбавіцца ад іх, у што б там ні стала пазбавіцца, вырашыў урад СССР. Выхад знайшлі – на выспы: з вачэй далоў - з сэрца прэч. На працягу некалькіх месяцаў краіна -пераможца ачысціла свае вуліцы ад гэтай «ганьбы»!

Іх збіралі за адну ноч з усяго горада адмысловымі нарадамі міліцыі і дзяржбяспекі, адвозілі на чыгуначныя станцыі, грузілі ў цяплушкі тыпу ЗК і адпраўлялі ў гэтыя самыя «дамы-інтэрнаты». У іх адбіралі пашпарты і салдацкія кніжкі - фактычна іх пераводзілі ў статус ЗК.Как распавядаюць тыя, хто яшчэ памятае тыя часы, першая партыя пасяленцаў ў новым доме складалася з 500 чалавек. Гэта былі розныя інваліды - без рук, без ног, аслеплыя і глухія. Прывезлі і самых цяжкіх, т.зв. «самавараў» - франтавікоў, якія страцілі і рукі, і ногі. У людзей адабралі пашпарты і салдацкія кніжкі, фактычна перавеўшы іх на становішча зняволеных.

Гэта цяпер на іх магілах стаяць крыжы, пастаўленыя два дзесяткі гадоў таму манахамі, а тады інвалідаў хавалі безыменнымі, пад калкамі і таблічкай з нумарам. Так, як хаваюць злачынцаў. А ад многіх і магіл не засталося - зарастае зямля травой, ужо і пагорачкаў не відаць, знікаюць магілкі бясследна.

На франтах «Вялікай Айчыннай» вайны загінула 28.540.000 байцоў, камандзіраў і мірных грамадзян.

Паранена 46.250.000.

Вярнуліся дадому з разбітымі чарапамі 775 тысяч франтавікоў.

Аднавокіх 155 тысяч.

Сляпых 54 тысячы.

З знявечанымі тварамі 501 342.

З адарванымі палавымі органамі 28 648.

Аднарукіх 3 мільёны 147 000.

Бязрукіх 110 000.

Аднаногіх 3 255 000.

Бязногіх 1 121 000.

З часткова адарванымі рукамі і нагамі 418 905.

Так званых «самавараў», бязрукіх і бязногіх – 85 942.

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ІМЯ КАНДЫДАТА

**Рух "За свабоду" плануе вылучыць свайго кандыдата на будучыя прэзідэнцкія выбары. Пры гэтым Рух выказвае падтрымку адзінаму кандыдату ад дэмакратычных сілаў і будзе галасаваць за прыняцце гэтай працэдуры пасля таго, як прапановы арганізацыі будуць улічаны іншымі дэмакратычнымі сіламі, кажа намеснік старшыні Руху "За свабоду" Алесь Лагвінец.**

«Рух "За Свабоду" таксама вызначыўся з тым, што ў ягоным інтарэсе мець свайго кандыдата. І да 15 ліпеня гэтага года, значыць, праз два месяцы, Рух абвесціць пра свайго кандыдата, назаве імя гэтага кандыдата», - сказаў Алесь Лагвінец Радыё «Рацыя».

Як сказаў Алесь Лагвінец, на пасяджанні рады «праводзілася закрытае рэйтынгавае абмеркаванне, хто можа быць кандыдатам ад руху. «Пакуль мы не ведаем вынікаў у спіс для галасавання былі ўключаны розныя прозвішчы, у тым ліку кіраўніцтва Руху "За свабоду"», - дадаў Лагвінец.

Рух "За свабоду" на радзе выступіў за выпрацоўку адзінай стратэгіі дэмакратычных сілаў і абранне адзінага альтэрнатыўнага кандыдата ў прэзідэнты. Прапанаваная працэдура Кангрэсу дэмакратычных сілаў для абрання "адзінага" прымальная, але некаторыя моманты патрабуюць карэктыроўкі, сказаў Радыё «Рацыя» першы намеснік старшыні Руху "За свабоду" Юрась Губарэвіч.

«Мы лічым, што ў інтарэсах усёй дэмакратычнай супольнасці як мага раней вызначыцца з асобай адзінага кандыдата. Аднак нельга разглядаць працэдуру як самамэту, і вылучэнне такой асобы без адрыву ад агульнай стратэгіі дзейнасці дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкія выбары, перадусім галоўным і самым важным элементам гэтай стратэгіі мусіць быць атрыманне падтрымкі большасці грамадзян Беларусі», - падкрэсліў Губарэвіч.

Без такой рэальнай падтрымкі грамадзянаў поспех апазіцыі немагчымы. І ні плошчы, ні абскарджанне ў судах не дапамогуць забяспечыць ці ўтрымаць гэтую перамогу, - кажа Юрась Губарэвіч.

Палітык падкрэсліў важнасць асобы адзінага кандыдата. "Адзіны павінен быць чалавекам праеўрапейскіх і прабеларускіх поглядаў. Гэты момант набыў асаблівую важнасць пасля падзеяў ва Украіне" - лічыць Юрась Губарэвіч.

НАША РАЗВІЦЦЁ

# КНУТ И ПРЯНИК

**Одно дело — делить растущий объем административной ренты, и совсем другое — сжимающийся подобно шагреневой коже. Эту стадию в истории белорусского государства мы сегодня и наблюдаем.**

Независимость страны — наша главная ценность, подчеркивает Александр Лукашенко. В его недавнем послании народу и парламенту выделено три условия ее сохранения.

Во-первых, это единство народа Беларуси; во-вторых, извлечение уроков из своих ошибок и ошибок соседей; в-третьих, ясный проект будущего страны, способный воодушевить и объединить как старшее, так и молодое поколение.

При этом раздел, посвященный проекту будущего, в послании-2014 (как и во всех предыдущих) отсутствует. Если не считать общих слов, что белорусы уверенно смотрят в будущее и движутся по направлению к нему правильным курсом.

Так ли это на самом деле, мы можем оценить с помощью индекса ожиданий (ИО) и индекса правильности курса (ИПК), ежеквартально рассчитываемых социологами НИСЭПИ.

С конца марта 2011 года (после первой девальвации белорусского рубля) ИО держится в отрицательной зоне (таблица 1). Следовательно, доля оптимистов, уверенно смотрящих в будущее, в Беларуси меньше доли пессимистов, такой уверенности не проявляющих.

В марте текущего года относительно декабря прошлого года ИО увеличился на 21 пункт, но остался отрицательным. Положительная же динамика — результат шовинистической эйфории, охватившей часть белорусского общества в связи с «присоединением» Крыма к России. Долго эта эйфория не продержится. Повседневные заботы вернут белорусов в их привычное состояние.

ИПК за последние три месяца увеличился на 18 пунктов под влиянием той же причины, что и ИО.

Верят в правильность курса развития страны сегодня 40% белорусов, и эта вера не предусматривает понимания направления развития. Светлое будущее, в представлении «большинства», есть калька с настоящего, но с гарантией более высокого уровня потребления.

**Духовность в долларовом эквиваленте**

Будущее Беларуси Александр Лукашенко напрямую связывает с духовным здоровьем нации, «которое вместе с высокими моральными принципами, патриотизмом, активной гражданской позицией составляют основу нашего общества, гарантируют его устойчивость и являются главным источником его развития» (доклад на идеологическом совещании, март 2003 года).

Духовное здоровье белорусской нации, с точки зрения властей, постоянно находится под угрозой. В качестве основного источника угроз выступают неолиберальные, западные ценности.

При этом Лукашенко демонстрирует яркий пример долларизации мышления. Центральным элементом картины будущего, которую глава государства набрасывал широкими мазками на Всебелорусских народных собраниях, являлась средняя зарплата в долларовом эквиваленте.

Ограничусь одной цитатой (декабрь 2010 года): «Однако и в этих условиях мы, как и договаривались, к концу 2010 года выходим на среднюю заплату 500 долларов США в целом по стране. <…> К 2015 году мы должны приблизить размеры заработной платы к тысяче долларов в эквиваленте. Это самые высокие в нашей истории темпы роста зарплаты и доходов населения».

Выполнение договора «к концу 2010 года» было достигнуто за счет диспропорций в экономике. В результате за неполный год уровень зарплатоемкости белорусского ВВП (отношение общей суммы начисленной зарплаты к ВВП) увеличился на 10 процентных пунктов. По этому показателю Беларусь вышла на второе место в Европе, пропустив вперед лишь Швейцарию. Результат в виде трехзначной инфляции и трехкратной девальвации не заставил себя долго ждать.

**Номенклатуру сцементируют страхом**

Обосновывать правильность курса ростом заработной платы в долларовом эквиваленте и рисовать картину будущего с помощью американской «зелени» было удобно на стадии экономического роста. В декабре 2010 года с трибуны Всебелорусского народного собрания новая экономическая реальность автором белорусской модели еще не просматривалась. Отсюда его обещание «приблизить размеры заработной платы к тысяче долларов в эквиваленте» к концу 2015 года.

Сегодня о своем главном обязательстве Лукашенко предпочитает не вспоминать. Послание-2014 в этом смысле не стало исключением. Но природа не терпит пустоты. И она постепенно заполняется. В качестве основного наполнителя выступают репрессии.

В «государстве для народа» механизм репрессий против маргинальных (с точки зрения государства) социальных групп отработан до мелочей. Ожидать особых инноваций тут не приходится. Но в качестве слабого звена, способного подорвать стабильность в стране, Лукашенко воспринимает сегодня бюрократию, включая ее высший уровень.

Напомню второе условие сохранения независимости страны: извлечение уроков из своих ошибок и ошибок соседей.

О роли «тотальной коррупции» в украинских событиях сказано немало, в том числе и главным белорусским борцом с коррупцией. Но что-то я не припомню публичных оценок ближайшего окружения Виктора Януковича, которое его фактически сдало. Это, впрочем, не означает, что Лукашенко не сделал для себя выводов.

Отмечу: главным (далеко не единственным) объектом сталинских репрессий была номенклатура. Ее готовность беспрекословно выполнять любые приказы являлась обязательным условием сохранения власти «вождя народов».

Для каждого исторического времени характерно свое оптимальное соотношение политики кнута и пряника. Понятно, что при строительстве социализма в отдельно взятой стране Сталин предпочитал кнут. Но в условиях открытой экономики возможности авторитарного лидера размахивать кнутом ограниченны. Тем не менее, они не сведены к нулю.

Согласно нобелевскому лауреату Дугласу Норту, государство является организацией организаций. Последние создаются группами элит для извлечения административной ренты. Этим почтенным занятием эффективней заниматься вместе, что не снимает проблемы дележа административной ренты по справедливости. Для этого и требуется верховный арбитр.

Но одно дело — делить растущий объем административной ренты, и совсем другое — сжимающийся подобно шагреневой коже. Эту стадию в истории организации организаций элитных групп в Беларуси мы сегодня и наблюдаем. Без усиления роли кнута ее не преодолеть.

Декрет, который в ближайшее время планирует подписать Лукашенко, предоставит ему возможность возбуждать уголовные дела против руководителей любого уровня не за нарушения законов, а за провалы в работе. С чем я руководителей всех уровней и поздравляю. Поводов смотреть в будущее с оптимизмом в ближайшее время у них прибавится.

**Сергей Николюк**
**БЕЛАПАН**

ГІСТОРЫЯ

# АДКУЛЬ ПАЙШЛА ГЕОРГІЕЎСКАЯ СТУЖКА

**Яе масавае распаўсюджванне пачалося пры Пуціну. Для чаго? Савецкі сцяг? Але ніхто не хоча вяртацца ў «савок». Расійскі трыкалор? Але ён чужы іншым народам. Для адраджэння новай імперыі патрэбны быў сімвал.**

**Раздача стужак пачалася ў 2005-м**

А што аб'ядноўвае народы былой імперыі? Каб не талоны на мяса, не Гулаг, не разбураныя цэрквы? Так, супольная перамога над нацызмам.

«Фашысты будучыні будуць называць сябе антыфашыстамі», — пісаў Чэрчыль. Так і сталася.

Акцыю «Георгіеўская стужка» распачала ў 2005-м, на другім годзе другога тэрміна Пуціна, расійская арганізацыя «Студэнцкая абшчына» пры падтрымцы ўрада Масквы і РІА «Новості». З тых часоў масавая раздача стужак праводзіцца штогод амаль на ўсёй тэрыторыі былога СССР. Таксама стужкі рассылаюцца ва ўсе расійскія пасольствы — таму геаграфія стужак ахоплівае практычна ўвесь зямны шар.

**Паласаты легіён**

У апошнія гады перад Днём Перамогі і ў Беларусі з'яўляецца шмат чорна-жоўтых георгіеўскіх стужак. Іх чапляюць на аўтамабілі і нават на ашыйнікі сабак. Бо стужкі масава раздаюць — на вуліцах, у крамах, на аўтазапраўках.

Чаму георгіеўская?

Насамрэч, георгіеўская стужка мае вельмі ўскоснае дачыненне да Другой сусветнай вайны.

Георгіеўская стужка называецца так, бо служыла стужкай да ордэна Святога Георгія, заснаванага ў 1769 годзе Кацярынай II. Ордэн быў найвышэйшай вайсковай узнагародай Расійскай Імперыі, але быў скасаваны саветамі ў 1917 годзе і адноўлены ў Расіі ў 1992-м.

Яна вярнулася на вайсковыя ўзнагароды ў 1943 годзе ў якасці ленты да ордэна Славы.

У 1945-м такая самая стужка з'явілася на медалі «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (амаль 15 мільёнаў узнагароджаных). Аднак стужка мела іншую назву — «гвардзейская».

**Трыумфальнае вяртанне**

Гвардзейская стужка выкарыстоўвалася ў СССР у асноўным для святочнага дэкору. Яе можна сустрэць на савецкіх паштоўках розных гадоў. Але «георгіеўскай» — адкрытая адсылка да імперскай гісторыі — яе тады ніхто не называў.

Памылка ці не?

Чаму «ўваскросла» георгіеўская, а не гвардзейская стужка, не могуць уцямна патлумачыць нават арганізатары акцыі. Супрацоўніца расійскай грамадскай кампаніі «Георгіеўская стужка» Алена (якая, на жаль, адмовілася назваць сваё прозвішча) расплывіста тлумачыла, што чорна-залатая стужка спрадвечна называлася георгіеўскай.

Заўвагі пра адмену ордэна Святога Георгія ў 1917 годзе і карэктнасць прымянення тэрміна «гвардзейская стужка» ў дачыненні да перыяду ВАВ раздражнілі Алену: «Я не гісторык. Калі вам трэба нейкія гістарычныя факты, звярніцеся да гістарычнай літаратуры. Але ордэн Перамогі быў на георгіеўскай стужцы».

Алена мела на ўвазе найвышэйшы ордэн СССР «Перамога», якім узнагародзілі маршалаў, генералаў і генералісімуса. Але ж напраўдзе стужка ордэна «Перамога» была шасціколернай, і пераважаў чырвоны.

А вось ужо юбілейны медаль «60 гадоў Перамогі ў ВАВ 1941—1945», заснаваны ў адзін год з акцыяй «Георгіеўская стужка», мае выяву ордэна «Перамога» і гвардзейскую стужку на краях чырвонай калодкі.

Аданак наўрад ці назвы стужак ненаўмысна пераблыталі. У кодэксе акцыі «Георгіеўская стужка» напісана, што мэтай акцыі ёсць «стварэнне сімвала свята — Дня Перамогі».

**Стужка замест сцяга**

Такім чынам пуцінскі рэжым стварыў новы ўніверсальны сімвал. Ён нібыта мае дачыненне да вайны — у якой найбольшыя ахвяры панеслі, дарэчы, беларусы, украінцы, палякі і яўрэі, але ў той самы час ён мае адсылку і да часоў Расійскай Імперыі. Такі траянскі конь. Не ўсе тую задумку зразумелі.

Вешалі георгіеўскія стужкі — і вешалі. Мала хто надаваў таму палітычнае значэнне. Але тут здарыліся падзеі ва Украіне. Расія адхапіла Крым, а цяпер хоча яшчэ і Адэсу з Данецкам. І вось тут георгіеўская стужка стала знакам ідэнтыфікацыі баевікоў і сепаратыстаў.

Яна выйшла за межы святкавання Дня Перамогі і набыла новы сэнс.

Людзі, якія ўспаролі жывот дэпутату Рыбаку ў Горлаўцы і ўтапілі яго жыўцом, насілі такія стужкі. Людзі, якія адкрылі стральбу з карабінаў па ўкраінскай дэманстрацыі ў Адэсе 2 мая, у выніку чаго ўрэшце загінула 46 чалавек, — таксама. Ва ўкраінскіх дэсантнікаў і байцоў спецназа «Альфа» ў Славянску таксама стралялі людзі з георгіеўскімі стужкамі.

Пасля гэтага стужка перастала быць нейтральным сімвалам.

**Кірыла Хілько**
**«Наша Ніва»**

*Падрабязна тут: «Георгиевская ленточка»: Адкуль, каму, за што www.svaboda.org/content/st-george-ribbon/25376626.html*

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.05.2014 у 18.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.